38, 1510); коли сѧ поткали, древа поломали на много штукъ и вдарылисѧ плечыма, аж под ѡбема кони пали (Трыст., 100); Налива^s^кины козаки ... перве^s^ конꙗ под нимъ застрелили, а потом ... его самого розсекали (Барк., 154).

**Подъ II** *наз.* **1.** *Ніжні насціл у памяшканні, на дніштчы судна, па якім ходзяць.* А была великая фортувина, и Бово на поду стоꙗл (Бава, 148).

**2.** *Насціл для сушкі збожжа, насення і інш.* тамъ же на томъ поду въ гумнѣ того Силюжича жита могло быть съ копу (АВК, XVIII, 304, 1629).

**3.** *Парастак; гадавы прырост (расліны).* Апродит приказана на ... милость и на милованіе. на млсрдіе. на под и на оумноженіе. на ѡвощь (Неба, 73).

**Подъежжати, подъеждчати, подъежчати** *дзеясл. Едучы, наблізіцца да каго-, чаго-н., пад'язджаць.* Теды кнзь Дмитриі ... послаль на сторожу от Мамая крѣпких своихъ оружниковь ... и казал имь усердно стеречи и, под Орду подежжаючи, языка добывати (Мам., 173); подъеждчаючы до Чорныхъ, поткали Дмитра Оверкова подъ Молодечъномъ (ИЮМ, IX, 337, 1638); так же и на розговорах подежчаючи под город, великие дары и волности обецывали (АВК, XXXIV, 157, 1660).

**Подъездокъ** *наз. Нізкарослы, прысадзісты конь.* ѡны^s^ валахъ из инъшимъ подездъкомъ съ стада згинꙋлъ (КВС, 493б, 1552); жебы еси з людми пешими неоселыми постановен[ь]е чинилъ и за служъбу ихъ имъ поступовалъ на чверть року по два золотыхъ полскихъ ... а хто бы на кони былъ, ино на чверть на под[ъ]ездка три золотыхъ полскихъ (КПД, 750, 1563); Яносъ Мичайтисъ на рыжомъ подъездъку з ощепомъ, съ кордомъ, конь 1 (ПВЛ, 1270, 1567); кони почтовые и возники, подъѣздки, иле ихъ есть, записую малжонцѣ моей милой (АВК, II, 213, 1580); и всел. на того подездка, ѡн конь под нимъ пал (Бава, 145); Онцута поймал дей на сеножати ... коней пятеро подездковъ, не вем чые (АВК, XXXVI, 115, 1582); другая коляса стаенная парою подъѣздковъ тисавыхъ золотыхъ трыдцать (АСД, I, 251, 1616).

**Подъездъ** *наз. Невялікі конны разведвальны атрад.* мнѣ намѣстнику гетманскому мои подъѣзды и лазучники дали о томъ вѣсть (АВЗ, IV, 485, 1615).

**Подъемлити** *дзеясл. Пераносіць, зазнаваць, зведваць.* Тръплю: Зношꙋ, чекаю, подемлю (Бяр., 170).

**Подъемлющий** *дзеепрым. ад* подъемлити. Приемлющей: Подемлющей (Бяр., 124).

**Подъемникъ** *наз. Чалавек, які бярэ на сябе выкананне якіх-н. спраў, абавязкаў.* ѡ стыи ... сказателю теплого строениꙗ гса нашего ісса хса. свидѣтелю и подемъниче нашь великии трꙋдниче бжии (Чэцця, 227б–228).

**Подъехати** *дзеясл. Едучы, наблізіцца да чаго-, каго-н., пад'ехаць.* врадникъ ... кнежны Барбары ... подехавшы подъ село мое Лусковское з возы порожними, подданых дей власных отъчычов моих ... вывез до именья дей панее своее (АВК, XXXVI, 48, 1582); так иж се болшеˢ терпѣт козаком не хотѣло, але шах хотѣл абы ближей подѣхали (Стрыйк., 633б); ꙋшиковавши теды ивонꙗ воˢско, ниж до битвы пришло, подехалъ зновꙋ под людъ (Хр. польск., 20б). *Параўн.* подъяхати.

**Подъизбица** *гл.* подызбица

**Подъимати** *гл.* подымати

**Подъимованый** *гл.* подоймованый

**Подъимовати** *гл.* подыймовати

**Подъискивати** *гл.* подыйскивати

**Подъисковати** *гл.* подыйскивати

**Подъюхтокъ** *наз. Кавалак выраблєнай скуры буйной рагатай жывёлы (відавочна, у адрозненне ад юхту, на выраб пад'юхткаў ішлі скуры маладых жывёл).* Подъюхтокъ для накрываня справъ, у фунтовъ дванадцать ... заплатили золот. шесть (ИЮМ, I, 243–244, 1682); Два подъюхтки дали золотыхъ два и асмаковъ пятнадцать (Там жа, 244).

**Подъяздовый** *прым. Пад'язны, які прызначаны для пад'езду ў які-н. важны пункт.* сꙋплика ... ѡтдана ест: бо вˢ атлас зеленыˢ ѡправлена была, и незначне в карету ѣдꙋчомꙋ с подꙗзова дворꙋ до замкꙋ варшавского ѡдана (Дыяр., 168б).

**Подъяконъ** *гл.* поддияконъ

**Подъяти** *дзеясл.* **1.** *Узяцца за выкананне якой-н. справы.* На престолѣ Двдѣ и на црствѣ его сѧдеть направити и, и подѧти судомъ и правдою ѡт нынѣ и до вѣка (Будны, 121б–122).

**2.** *Перанесці, зазнаць, зведаць.* Претерпѣ, съвръши, ꙑв. подѧт (Бяр., 123). ◊ П о д ъ я т и с м е р т ь – *памерці.* по порожденіи дѣтѧте, сваволнаѧ невѣста, смртˢ подѧти маетъ (Зб. вып., 11б).

**3.** *Умацаваць, вылечыць (хворага).* Немогшагосѧ не подˢѧсте, и болѧщого не врачевасте, и сокрушенаго не обѧзасте (Будны, 70).

**Подъятый** *дзеепрым. ад* подъяти *ў 1 знач.* чим реч большаꙗ длꙗ господа бга подꙗтаꙗ бываеt тым есть емꙋ милшаꙗ (Зб. 261, 73).

**Подъяхати** *дзеясл. Тое, што і* подъехати. серпнꙗ д҃ (4) днꙗ в четвергъ того пн҃а мостовничого гром забил в полю под сосною под которою был длѧ дождчу подꙗхавши станул (Еўл., 16).

**Подъячей** *гл.* подьячий II

**Подъячество** *наз. Пасада пад'ячага (у Маскоўскай Русі).* дали есмо подъячество Вяземское Михайлу Бурбѣ (АЗР, IV, 367, 1610).

**Подъячий** *гл.* подьячий II

**Подызбица, подизбица, подъизбица, потизбица** *наз. Ніжні паверх дома, дзе звычайна размяшчаліся клець, кладоўка або пограб.* изба на подызбицы з сенми, а назаду сеней пристенокъ (ИЮМ, XXX, 68, 1577); абыхмо ему помогъли тое коровы неразтелное с подызбицы на гору увъ ызбу внести (ИЮМ, XXXII, 135, 1578); поступили ему ... домъ ... гридню на потизбицы (АВК, XXXIX, 287, 1579); продал ... што на том же пляцу ест будоване болшое, то ест светлица и напротивку гридня на подизбицах (Там жа, 393); То есть наперьвѣй дворъ владычній въ замку вышнемъ Полоцкомъ ... свѣтлица на подъизбицы, напротивко клѣть на подклѣтѣ (АСД, I, 171, 1588); Савка, Харытоновъ зять, укравъ у Павла Коваля скрыню съ подъизбицы (ИЮМ, VIII, 283, 1609); тамъ же дей такъ же в подизбицы горелки знашли (ИЮМ, XXII, 243, 1627).

**Подыйма** *наз. Кавалак дрэва пад адтулінай у возе для падтрымлівання дышла ў гарызантальным становішчы.* колеснику Грыгорыю Бесихину за ... дронжекъ до колясы харчовыя, прыголовашку до третей, рукоять, пакляски, подыймы две, до четвертое; дощку до переду подыйму робили Бедышовы сынове, дали осм. семъ (ИЮМ, VI, 71, 1689); Янчыку ковалю, што оковалъ колъ шесть ... одну бляху до подыймы, другую бляху подъ дышель ... золот. чотырнадцать (Там жа, 71–72).

**Подыймати** *гл.* подымати

**Подыйматисе** *гл.* подыматися

**Подыймованье, подымованье, пойдыймованье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* подыймовати *ў 4 знач.* хочемъ при целости зоставити здавна звычаиные ѡбычаи подымованѧ стацеи на станехъ зстародавна звычаиных мосты старые поправляти и новые на старых местах будовати (Ст. 1529–Ф, 16); жадныхъ стацей давати ани пойдыймован[ь]я чынити на послы нашы и чужоземъскіе не повинни (КПД, 552, 1557); абы твоя милость безъ всякого омѣшканья, шафара съ пѣнязьми, для подыймованья тыхъ пословъ Московскихъ, противъ нимъ отправилъ (АЗР, III, 239, 1578); абы тые водле стародавного ѡбычаю, ꙗко подводы и поды$^{s}$мованье ста-

цыꙗми на станехъ ... повин*и* были (Ст. 1588, 94); ани мы господарь и по насъ будучые ихъ милость короли Польскіе и великіе князи Литовскіе тыхъ доходовъ никому отдавати и ни на што иншое ихъ оборочати и ими шафовати не могли, только на подыймованье насъ и столу нашого господарского (АЗР, IV, 1, 1588).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* подыймовати *ў* 6 *знач.* болшою працою трудност и небезпечност поднѧли а до ѡдержанѧ мѣста меншаѧ зостала, за которое подымоване кождому з них великую нагороду наготовалъ (Атыла, 224); на терпливое мною ѡзнайменыхъ ва*м* оутисков*ъ* и бѣдъ подыймоване охотне готꙋйтесѧ (Каліст, II, 1б).

**Подыймовати, подоймовати, подъимовати, подымовати** *дзеясл.* **1.** *Браць, падымаць што-н. з зямлі, падлогі і пад.* тотъ Иванъ поведилъ, ижъ Ониско зъ страху упалъ, а кгды пришли подыймовать, знашли забитого (ИЮМ, IX, 338, 1638). // *перан. Дапамагаць каму-н., падтрымліваць каго-н.* подыимоуе*т* гсь всех которые оупадаю*т* (Пс. XVI, 139); Хс҃ Гдь҃ ... подносить розслабленного смыслъ, подыймоуеть зараженꙋю дш҃ꙋ его (Каліст, II, 35б); прчстаꙗ дева ... зъ ꙗкою ѡсторо*ж*нос*т*ю и ꙋчтивос*т*ю на рꙋки свое его брала которого знала бы*т* господе*м* и бого*м* свои*м* зъ ꙗки*м* набоже*н*ство*м* ... его подоˢмовала (Зб. 255, 143). ◊ П о д ы й м о в а т и ш а п к и – *сімвалічным жэстам падняцця кінутых на падлогу шапак выказваць на судзе нязгоду з абвінавачваннямі ці прэтэнзіямі каго-н.* што ся дотычеть проходового за подниманемъ шапок у права, тогды оный слуга старостин, который шапки подыймуеть, естьли отъ права на место для ставленя светковъ иде, 2 гр., а естьли отъ права не отъходить, тогды гр. одинъ (Пін., 92, 1551). *Параўн.* подеймовати *ў* 1 *знач.*

**2.** *Перамяшчаць знізу ўверх, уздымаць.* Въздѣю: Подыймꙋ, мꙋю (Бяр., 19); дрꙋгие стꙗнꙋ подыймꙋють: кричꙋчи сюды намъ его подайте: и длꙗ того в цельи ме*шка*т не могꙋ (Пралог, 644).

**3.** *Рабіць больш высокім, надбудоўваць.* ꙋслышали теды неприꙗтели жидо*в*ски*и*, што жидове подыˢмую*т* мури и ꙋмоцнꙗю*т* иерꙋсали*м* мѣсто (Біблія, 603); жидове подˢимꙋю*т* мꙋ҃ры и оумоцнѧю*т* Іерꙋсалімъ мѣсто (Хран., 391).

**4.** *Браць на сябе расходы, выдаткі на што-н.* Случане и Копыляне мосты мощивали и станы дѣлывали и стацеями подыймовали и подводы даивали (КЗ, 721, 1499); тые деи люди его тых намесников*ъ* подыимовали стацеями и и*н*ными речми, суживали их и раживали (ПГ, II, 186, 1501); мы ꙗко жыво прадеды и ѡтъцы нашы ани мы сами стацею ꙋ бабиничохъ ... не подыˢмовали (КВЗС, 168, 1540); тогды сынове мои маютъ ихъ зъ именья своего зъ час-

тей своихъ власныхъ накладомъ своимъ веселья подыймовати и выправу дати (АВК, XVII, 407, 1556); ꙋставуемъ ... на тыхъ старых местцахъ делницы свои знову будовати и послов поды^s^мовати (Ст. 1566, 34б); мы сами ... вси тые повинности и роботы с того дому нашого полнити подымуемъ и симъ листомъ описомъ нашимъ обвязуемъся (АВК, XXXIX, 248–249, 1579); стацию водлугъ ревизии подыймовати и подводами до ночлегу одсылати ... не хочутъ (Арх. ЮЗР, VIII–5, 386, 1613); коммисаре наши ... уважавши кошты, которые вельможный каштелянъ Витебскій въ збудованью моста на той рѣцѣ поднялъ и на потомъ въ частокротномъ напрованью оного подымовати муситъ, мыто мостовое брати постановили (АВК, VII, 107, 1619). *Параўн.* подеймовати *ў* 2 *знач.*

**5.** *Брацца за выкананне якой-н. справы, прадпрымаць што-н.* ѡднакꙋю пилность і однакое стараꙺе подоймоуймо (Апакр., 126б); преложоны^s^ ... теж сказаниꙗ вси потвержал, и иныи речи поды^s^мовал (Бельск., 166); жаднои працы ани роботы, котораꙗ лакомству служит не поды^s^муемы (Алекс., 32б); кафоликове же местца свꙗтые навежають до ѡных сꙗ кꙋпꙗть и дороги далекие поды^s^мꙋють (Аб абр., 10); на тыхъ борбы и войны в^s^ таемныхъ мыслѧх^s^ твоихъ не повиненесь подыймовати (Мак., 23); фрасовалсе на порожнюю працꙋ которꙋю длꙗ их любве поды^s^мовал (Зб. 107, 181б); бог был которы^s^ тую дорогꙋ з ними поды^s^мовал (Зб. 255, 142); ꙗкъ небезпечна и шкодлива речъ ест, вет за вет ничого не ѡтдавать, за такие працы которих родичи ѡколо дѣте^s^ поды^s^мують (Пралог, 586–586б).

**6.** *Пераносіць, зазнаваць, зведваць.* ѡни ... кинули сѧ на жолнере, мѣста боронѧчые, будучы готовы всѧкие раны подыимовати (Атыла, 223); немалые утраты на маетностяхъ своихъ подыймовати мусять (АЮЗР, I, 230, 1589); ѡ сынꙋ, вспомни ѡднакъ на мои болѣсти которием през тебе поды^s^мовала (Тр. гіст., 70б); такъ много мукъ поды^s^муешъ, иле богов а балвохвалских хвалъ чинишъ (Алекс., 34); дѣти за родичѡвъ своихъ грѣхи караꙺѧ не подыймꙋютъ (Каліст, I, 141); працы, потꙋ, чꙋт^s^ѧ и неспан^s^ѧ подыймꙋючи: Лѣта, дни и часы травили (Паўуст., 2); не иначей ꙗкъ кꙋпецъ маючи зыскъ веселит^s^сѧ, хотѧ много бѣдъ подыймꙋетъ (Мак., 119); Приемлю: Под^s^емлю, терплю, подыймꙋю, чекаю, постизаю, прiймꙋю (Бяр., 124); караꙺе за грехи свое подо^s^мовати мѣли (Зб. 259, 86); Згола такъ есми была притискана, иж было потреба або воли его досить чинит, або ѡкрꙋтъныи муки поды^s^мoват (Зб. 82, 436б). ◊ П о д ы й м о в а т и  с м е р т ь – *паміраць.* молодыи звыкли поды^s^моват смерть в молодости своей, велми ꙋфаючи в силы

свои (Алекс., 74б); Належите прето крстомъ смерть подимꙋетъ Хсъ Гдь (Каліст, II, 220); за ха и его еѵгліе смерть подыимꙋеть (Навука, 13).

**7.** *// перан. Выставіць, падаць у якім-н. святле.* вставъ на лаве ꙋпросивши, поведилъ ижъ тотъ самъ здра^s^ца хто мене здра^s^цою подо^s^мовает (Барк., 150б).

**Подыймоватися, подиймоватися, подымоватися** *дзеясл. зв. Брацца за выкананне якой-н. справы.* ꙗ дей рекъ ... ижь ся того самъ на мою парсунꙋ не подымую (КСД, 22, 1510); Матысъ Кунцевичъ ... просилъ для Бога съ плачемъ ... подиймуючися всякого каранья и вязенья и покуты за небожчика покутывати (АВК, XVII, 280, 1541); абыхмо на хлебокормене дванадцать служобъ пустыхъ, у волости тамошной Могилевской, в старостве нашомъ дали подымуючысе с того ку кождой службе господарской земской ... три кони збройно ставить (АВК, XXIV, 337, 1569); до того великое в нихъ послушенство над вси приказанꙗ гдни, поды^s^муютсꙗ абы нанизшихъ послугъ ангелове, абы толко воли бже^s^ догодꙋ ꙋчинили а спсению лудскому (Пралог, 548). *Параўн.* подеймовати *ў* 3 *знач.,* подеймоватися.

**Подыйскивати, подискивати, подъискивати, подъисковати, подыйскывати** *дзеясл. Імкнуцца прысвоіць што-н.* всего ми того под братомъ н(а)шимъ не подисковати а ни ѡбидети (ПГ, I, 51, 1387); княженья ти подъ ними не подыйскивати (АЗР, I, 63, 1449); того двора подъ нимъ подыйскываеть Юркеясовъ сестренецъ Ганусъ (АСД, VIII, 124, 1499); под[ъ]искивала кнегини Васильевая Острозского подъ Ивашкомъ Калениковичомъ села Корници и Шелева (КЗ, 58, 1450); хто бы имѣлъ того дворища подъ игуменомъ Лукою подискивати, тогды мнѣ Гринку тую землю очищати (АСД, IX, 416, 1502). *Параўн.* подыскиватися.

**Подыйти, подийти** *дзеясл.* **1.** *Наблізіцца, падыйсці.* подышол^s^ мꙋлъ подъ дубъ великии (Скар. ДЦ, 100б); з недели на понеделокъ, у ночы, подышедшы дей подданые пна Ференъса ... под двор его мл. князя пана моего ... гумъно ... огънемъ запалили (АВК, XXXVI, 278, 1582); тотъ Иванъ ... подшодшы подъ тотъ же домъ его ... самого Урбана Ясевича на улицу вызывалъ (АВК, XX, 59, 1588); в ночы подышодшы подъ тотъ домъ его милости ... на здоровье его отповедь и похвалку чынилъ (Там жа, 125, 1597); тит ... се варовал. абы бꙋнтовницы ꙗкою зрадою не подишли в так пꙋстом мѣсте (Бельск., 234); Чепукъ ... подишодши потаемне подъ плебанею Гервятскую ... сына своего именемъ Юрья, на послузѣ у его милости ксендза плебана Гервятского будучого, выкралъ (АВК, VIII,

515, 1637); крол вандалски^s ... коли под римъ подышол, ꙋблаганы^s ѡт ст҃ого леѡнтиꙗ на том перестал (Зб. 752, 551).

**2.** *Ашукаць, перахітрыць.* ревека подшла исаака мꙋжа своег ѡ благословенство иꙗковꙋ (Бельск., 21); сей же подстꙋпнымъ своимъ пытанемъ мѣлъ в^s ѡтповѣди подійти и подхватити Хⷭ҇а Га҃ (Каліст, II, 148); выповѣдѣлъ: и свѣжо зась, ꙗкъ его хитрою подышолъ розмовою (Варл., 26); мнимал глупець единороднꙋю мꙋдрост бж҃ꙋю людскою хитростью подити (Зб. 82, 277б).

**Подыманье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* подымати *ў 2 знач.* На подымане той же рыны тремъ человекомъ цесломъ, на день заплатили кождому по золотому (ИЮМ, IX, 69, 1692).

**Подымати, подоймати, подъимати, подыймати** *дзеясл.* **1.** *Браць, падымаць што-н. з зямлі, з падлогі і пад.* македонского цр҃ства стережисꙗ, бо хто тꙗжко подыимает, тот сꙗ маетъ ꙋвередити (Алекс. 1697, 9б).

**2.** *Перамяшчаць знізу ўверх, уздымаць.* проліи как водꙋ срдце твое против лица божѧ подымаи к немꙋ длани свои (Зб. 262, 111б); ланцꙋхи великими подимали хоромы (Патр. К, 49); людеи под стенꙋ головами клали подыимаючы хоромы и ззадꙋ людеи жгли (Патр. П, 100). ◊ Подымати въ честь – *узвышаць каго-н., пераводзіць у больш высокае грамадскае становішча.* чтобы был родꙋ того чтобы племѧ его были правительми ... и такогож подымаи в такꙋю честь, и ѡнъ вси дн҃и свои бѫдеть покорен тобѣ (Арыст., 159).

**3.** *// перан. Узмацняць, павялічваць.* рече емꙋ, Алеѯандре сꙋетнаго свѣта царю в наших землꙗх гнѣвъ подыймаеш з нами сꙗ хочешъ воевати (Алекс. 1697, 62б).

**4.** *Браць на сябе расходы, выдаткі на што-н.* они ... пословъ дей и гонцовъ нашыхъ стацыями и подводами не подыймають (КЗ, 728, 1499); дле дроукꙋ и потребъ томꙋ належачих подымаючи (Цяп. Прадм., 267); отъ того взглядомъ кошту тѣперешнего, который на будованіе того мосту они подымутъ, такъже и для кошту пришлого ... мусятъ таковое жъ мыто по пѣнѣзю одномъ отъ подданыхъ ... брати позволили (СДГВ, 154, 1605).

**5.** *Пераносіць, цярпець, зазнаваць.* Въспріемлѣте: Зношꙋйте, подъемлѣте, застꙋпайте (Бяр., 24).

**6.** *Рабіць больш працяглым (аб жыцці, часе і пад.).* дабы дом его ѡтворень всѧкомꙋ пришелцꙋ и ѡтшелцю чего надобе сем. и да разꙋмеють речи их и послоушаеть дѣла их. и тѣшить трꙋдниковъ их. и подоимаеть времѧ их дабы был набоженъ (Арыст., 159).

**Подыматися, подыйматисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Брацца за выканан-не якой-н. справы.* абы ми, не ведучы на купу у жележахъ, яко злодея, добровольне пустилъ, подыймаючысе на купе стати (АВК, XVIII, 267, 1623).

**2.** *Уздымаць, станавіцца тарчма (пра лёд).* наняли человековъ двохъ, кгды ледъ подымался, объ пали били около ставу, дали зол. два (ИЮМ, VIII, 55, 1691).

**Подымное** *наз. Падатак з 'дыма' (ачага), хаты, двара.* Февраля 24 дня почнутся личбы зъ замковъ и дворовъ Троцкого повѣту ... зъ Дорогичина, и съ подымного съ Каменца (АЗР, III, 80, 1557); боꙗрове и*х* пꙋтные которые во^s^нꙋ слꙋжа*т* по грошꙋ подымного платити маю*т* (Прыв., 109); do wymyszlania podymnoho nichto nie byw pryczynoiu (Абух., 440); передъ нами ... врадъниками ... для слуханья присегъ на подымное водлугъ конституцыи ... засядаючыми (АВК, XX, 470, 1683); Въ тыхъ грошахъ было чехами гладкими золотыхъ дванадцать, которые мы взяли подымное выбираючи (ИЮМ, VIII, 13, 1691); Гды прыбыли п.п. поборцы оршанскіе, взглядомъ подымъного и киберны, на тотъ часъ ... купили имъ рыбы свежой (ИЮМ, XII, 68, 1698); были панове поборцы на ратушу, домавялися ретента подымнего (ИЮМ, XIII, 151, 1699). *Параўн.* гроши подымные, подымовщина, подымщина.

**Подымный** *прым. Які мае адносіны да падымнага (падатку з 'дыму').* были тамже квиты поборовые, квиты подымные (АВК, XXXIV, 10, 1654); обликги квиты военные пописные, поборовые старые и подымъные ... выбравшы, село наше ... выпалили (Там жа, 159, 1660); закладаемъ до того, ажебы звышменованые их милости ... вси справы вѣчистые, листы, записы, квиты поборовые, подымные ... одали [!] и вернули (АВК, IX, 50, 1671). ◊ Г р о ш и  п о д ы м н ы е – *тое, што і* подымное. Зъ сотни Березское ... отобрали подымныхъ грошей двесте шесть (ИЮМ, VIII, 13, 1691); Зъ сотни Троецкой ... отобрали подымныхъ грошей золотыхъ сто сорокъ пять (Там жа, 15).

**Подымованье** *гл.* подыймованье

**Подымовати** *гл.* подыймовати

**Подымоватися** *гл.* подыймоватися

**Подымовщина** *наз. Тое, што і* подымное. князь Иванъ Юрьевичъ ... вызволилъ тыхъ людей отъ службъ своихъ дворныхъ, и отъ подводъ, и отъ серебщизны и подымовщины (АЗР, II, 207, 1529).

**Подымщина** *наз. Тое, што і* подымное. дачь на насъ отъ нихъ никоторыхъ не имать, ни серебщизны, ни подымщины, ни ямщины ... и ниякихъ пошлинъ нашимъ заказникомъ зъ тыхъ людей

монастырскихъ не имать (АЗР, I, 103, 1483); коли на войну ходять, тогды подымъщины не дають (КЗ, 161, 1497); хотя бы и хотѣли которые люди за нихъ прійти зъ заграничья або отынудъ откуль, ино дей для того не смѣють прійти, штожъ подымщину нашу платятъ (АЗР, II, 28, 1507); посощыны, и подымщины, и ямщины, и подводъ не давати (АЮЗР, I, 236, 1590).

**Подымщиный** *прым. Які мае адносіны да падымшчыны.* Григорю Новгородьцу шуба лисья а поставъ сукна новогоньского зъ скарбу, а 10 копъ у Рачъка подымъщиныхъ (КЗ, 237, 1486).

**Подымь** *наз. Двор як адзінка, якая падлягае падаткаабкладанню.* а насъ, господару, на томъ сел[ь]ци семъдесятъ подымей (КЗ, 160, 1496); Бил на*м* чоло*м* кн(я)зь Семе*н* Соколи*н*скии ... о то*м*, што перво сего дали есмо *им* тридца*т*(ь) да чотыри подыме*и* люде*и* наши*х* в Полоцко*м* повѣте (ПГ, III, 80, 1511).

**Подыскати** *дзеясл. // перан. Здабыць, дабіцца чаго-н.* чимъ бы и маестатъ Божый образивши и сумнѣнья людскіе заведши, собѣ вѣчную погибель подыскати (АЗР, IV, 98, 1595).

**Подыскиватися** *дзеясл. зв. Тое, што і* подыйскивати. то естъ отчизна и дѣдизна моихъ и предковъ моихъ ... по тую дорогу ... и по каменный мостъ ... по который же панъ Олехно тое земли подо мною подыскивается (АЮЗР, I, 21, 1483).

**Подысподъ** *прысл. Знізу, спадыспаду.* по намова*х* долги*х* каза*л* коло зготова*т* а подыспо*д* тѣсны$^s$ прохо*д* ѹчынившы на ѡное коло бы*л* с҃ты$^s$ наверхъ всажо*н* (Зб. 752, 224); ѡсмо*г* днѧ завешоны$^s$ за ногѹ ѡ*д*нѹ, и *з*ве*р*хѹ розками биты$^s$, а поды*с*по*д* дымомъ з гною ѹчинены*м* морены$^s$ бы*л* (Зб. 82, 65).

**Подыстье** *наз. Падман, падвох.* ѹченіе ... Зычливо*ст*, карность, любъ штѹка, самоловка, подыст$^s$е (Бяр., 184).

**Подыходити** *дзеясл. Набліжацца, падыходзіць.* тотъ Янъ Некрашъ ... ночми подыходечы подъ домъ его милости ... на здоровье его отповедаетъ и похвалки чынитъ (АВК, XX, 125, 1597).

**Подьяконъ** *гл.* поддияконъ

**Подьякъ** *наз. Тое, што і* поддияконъ. жаденъ зъ насъ въ парафѣю другого ничимъ вступоватися, въ презвитеры, въ діяконы и въ подьяки, въ чужую парафѣю посвящати ихъ и становити ... не маемъ (АЗР, IV, 35, 1590).

**Подьямъ** *наз.* ◊ В ъ п о д ь я м ы – *падняўшы.* Самѱѡнъ ... повставши взѧлъ обои ворота в$^s$ подьѧмы з$^s$ подвоѧми ихъ и з$^s$ замкомъ (Хран., 186).

**Подьяцкий, падяцкий** *прым. ад* подьякъ. стихари дьяконскій да подьяцкій, два стихари полотняныхъ поповскихъ (АЗР, I, 136,

1494); Стихаровъ подяцкихъ чотыри ... за дванадцать копъ грошей (АЮЗР, I, 264, 1596). *Параўн.* подьячий I.

**Подьячий I** *прым. Тое, што і* подьяцкий. два стихари полотняныхъ поповскихъ, а три подьячьихъ, потрафили два камчатныхъ да поручи (АЗР, I, 136, 1494).

**Подьячий II, поддячий, подъячей, подъячий** *наз. У Маскоўскай дзяржаве з XVI ст. – найніжэйшы чын адміністрацыі прыказа, які пад кіраўніцтвам дзяка выконваў справаводчую работу ў цэнтральных і мясцовых установах.* князь великій послалъ къ нему въ стрѣчю, Суморока Путятитна да Олексѣйка Малого, подьячего (АЗР, I, 241, 1501–1503); Тыми разы присылалъ еси къ намъ съ грамотою своею подьячого вашого Алексѣя Малого (АЗР, II, 97, 1511); подъячей съ ними у корму Матюшка Казаковъ (Там жа, 267, 1533–1538); тое село Кушалино и деревню Офромѣевку съ дворца отдалъ Оружейного Приказу подъячему Скугорѣ Бокову (АЗР, IV, 399, 1610); товарышу его крол. млсти который проводилъ москаля отъ резыдента зъ боку кролевского поддячого, до царя, дано на страву зол. шесть (ИЮМ, V, 94–95, 1688).

**Подякованье, подяковане** *наз. Падзяка (пачуццё ўдзячнасці за што-н. добрае); знак выражэння гэтага пачуцця.* Янъ Злоцкий пану Василью за то передъ нами подякованье почстиве учинилъ (АВК, XXII, 170, 1565); вместо подѧкова*н*ѧ и вдѧчности за стара*н*е нашо ѹ великѹю ненавис [!] и в неласкѹ до своихъ же пришли (Унія, 2б); где напередъ ѡ*т* дѣеписа зˢ вдѧчностью мнѣ тое и с подѧкованьемъ пріймовати приходитъ (Апакр., 77); чыни*л* хвалѹ гдⷭ҇ѹ бгⷭ҇ѹ с подꙗкоmване*м* (Бельск., 159б); вшелѧкій на насъ Бжⷭ҇ій допѹстъ вдѧчне пріймѹймо, и скромне вˢ терпливости и вˢ подѧкова*н*ю зносѣмо (Каліст, I, 58); повинны будуть вся братя старшая и молодшая, вси одностайне поклонъ свой братерскій и подяковане учынить за ихъ послуги и за працы бывшому старосте и шафаромъ (ИЮМ, VIII, 412–413, 1625); Дочка засъ старца ѡного ... оустами Бга без престанкѹ хвалила, зˢ глѹбокого срдца ѡномѹ подѧкова*н*е чинѧчи (Варл., 141); кожды*и* братъ оуписный ... велебномѹ оцѹ Директорови, и всей на то*т* часъ братіи притомной ... оунижоное ѡ*т*далъ подѧкованье (Ст. бр., 19–19б); Блгодареніе: Дѧкова*н*е, албо доброе подѧкованье (Бяр., 4); хто жъ тобѣ несмерте*л*ное подꙗковане сегднꙗ не ѡ*т*дас*т* (Зб. 259, 654б).

**Подяковати, подякувати** *дзеясл. Падзякаваць (выказаць падзяку за што-н. добрае).* гекторъ заправду срдчне ему подѧково*л* [!] (Троя, 49б); я вжо былъ господарѹ съ ѹсказанья его милости подꙗковалъ (КСД, 628, 1509); подѧкѹете гсду богу изˢ земли доброе

ю же далъ есть вамъ (Скар. ДЗ, 21); ѡна емоу подѧковала велми миле (Сівіла, 2); Я, отходечы от него, яко пана своего, учстил и за навуку подяковал (АВК, XXXIX, 349, 1579); Трыщан ему подѧковалъ велми дворно и покорне (Трыст., 25); просилъ о то, абы яко шляхтичъ и слуга вѣрный пана пожегналъ и за хлѣбъ ему подяковалъ (АЗР, V, 75, 1645); богꙋ всемогꙋщемꙋ за такое посе*л*ство щасливе подѧкꙋѕмо (Зб. 259, 540б); жидъ подꙗкувавъши за дарꙋнокъ, припо*м*нитъсꙗ ѡ золотѣ позычономъ (Зб. 82, 425б); Алеѯанде*р* к нимъ кликалъ ... до господара своего вернѣтесꙗ и за че*ст* емꙋ ѡ*т* мене подꙗкꙋите (Алекс. 1697, 46).

**Подякольный, подяколный** *прым. Які мае адносіны да дзякла (падатку збожжам і сенам).* вызволилъ его милость тое-то нашо мѣсто отъ дяколъ, и отъ сѣна подяколного, и отъ пѣнязей тыхъ, которые за дякломъ врядникомъ даивали въ каждый годъ (АЗР, II, 10–11, 1507); Дали сесь нашъ листъ и тые люди въ селѣ въ Гольцу ... зъ дяклы ржаными, овсяными и зъ сѣномъ подякольнымъ (РПП, 354, 1553); тот двор ... потвержаем ... и з дяклами, и з сеном подяколным (АВК, XXXI, 231, 1595); вызволил его милость тое то нашо место от дякол и от сена подяколного (СДГВ, 157, 1607).

**Подякувати** *гл.* подяковати

**Подячка** *наз. Падзяка.* posyłaiut' w borzde z woyskom Jana Gasztolta, kotoromu pry podiaczki poruczyli, welikoho kniazia Kazimira diadeiu bi bo ieszcze kniaź Kazimir mał (Быx., 537).

**Подячливый** *прым. Удзячны.* благодарстве*н* – подѧчливый (Зіз., 77б); Бл҃годарны*и*: Бл҃годарстве*н*: Подѧчливый, албо вдѧчный (Бяр., 4).

**По евреиски, по евреискии** *прысл. Па-яўрэйску.* починаютьсꙗ книги пꙗтыи моісеѡвы рекомыи вторый зако*н*. поевреіски гелгадвори*м* (Скар. ДЗ, 5); Тогда месеца перъваго иже словеть поевреискии Нисанъ ... верженъ есть жребеи до сосуда (Скар. КЕ, 8); Починаетьсѧ книжка рекомаꙗ плачъ Еремиінъ. поевреіскии Цинаѳъ (Скар. ПЕ, 3); по дамаскинѫ оубо поꙗсы наричаютсѧ по евреиски же нб҃са ѡбычаи бо писанью и воздоу*х* нб҃о*м* нарицати (Неба, 61). *Параўн.* по еврейскꙋ.

**По еврейску, по евреиску** *прысл. Тое, што і* по евреиски. Елои – по еѵреи*ск*ꙋ бж҃ъ (Зіз., 31–32); Іс҃ поеврейскꙋ, пословенскꙋ Спасъ або Сп҃ситель, а порꙋскꙋ Збавитель (Каліст, II, 175); до того те*ж* по евъреѕску приписано мовечы: возми свое Іюдеꙗнине, а не хꙋли мене (Зб. 752, 570б); Панна по евре*и*ску ... значи*т* слово девицꙋ ненарꙋшонꙋю (Выкл., 20).

**По египетску** *прысл. Па-егіпецку.* назвала имꙗ его мойсей мовечи: ижем его з воды взела. Мойсей по египетску водꙗникъ (Біблія, 108); дала емꙋ имꙗ мо͚се͚ ѡт воды, бо моис вода по египетскꙋ (Бельск., 41).

**Поедати, поидати, поядати** *дзеясл.* **1.** *Есці, з'ядаць усё або ў вялікай колькасці.* Аще не объꙗвите ми кто снедаеть оброки сии то помрете, пакли же покажете тое иже Вель поедаеть сѣе то ꙋмреть Даниилъ (Скар. ДП, 38); внегда поедалъ хлеба и напил͚сѧ мужъ божии его же былъ вернулъ пророкъ тои (Скар. ТЦ, 159); послал на них песьи моухи, и поедали их, жабы и роспꙋжовали их (Пс. XVI, 80б–81); оуена, есть ѕвѣр дикій а окрꙋтныи, которій прішедши до пастꙋѡв ... на змордованыи псы нападши, поидает ихъ (Зіз., 50); птахи вороны и сороки, мѣсто все, тѣла сттыхъ поꙗдаючы, ѡколили (Зб. 81, 43б).

**2.** *// перан. Знішчаць, губіць.* река ѡгнаꙗ потечеть поедаючи всю землю (Чэцця, 28б).

**Поеденый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* поести *ў 1 знач.* виделомъ стоговъ двадцать свежо поеденыхъ и горожа коло нихъ роскидана (АВК, XVIII, 60, 1589); виделъ тежъ есми свежо грику поедено и потопътано (Там жа, 197, 1603).

**2.** *Ад* поести *ў 2 знач.* Лядунки зъ порохомъ, робленые прошлого року ... поедены одъ щуровъ (ИЮМ, XIII, 72, 1699).

**Поеденье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* поести *ў 1 знач.* того коня подле тое копы взялъ и тое поеденье жита нами осветъчалъ (АВК, XVIII, 232, 1612).

**Поединковати** *дзеясл. Біцца на паядынку.* Искꙋшеніе Бга есть ... казане правѣти, безъ приготованѧсѧ ... поединковати длѧ показанѧ невинности (Зб. вып., 106б).

**Поединковатость** *наз. Адзінкавасць.* никто того продкованья, и повшехного пастырства ... привлащати собѣ не маетъ; азажъ титоулꙋ того повшехныи бискꙋпъ ... жаденъ з римскихъ бискꙋпѡв того особности и поединковатости именѧ собѣ не привлащал (Апакр., 111).

**Поединковый, поедынковый** *прым.* **1.** *Ад* поединокъ. в моих книꙗзствах ни ѡдин годны͚ до поединкового бою не может на͚тисꙗ (Стрыйк., 447б).

**2.** *Асобны, вылучаны з якога-н. мноства падобных прадметаў.* не единъ ꙗкій особный и поединковый фꙋндаментъ самомꙋ петрови стомꙋ на котором бы сѧ члонки цркви тѣла хва бꙋдовати мѣли приписꙋет͚, але о фꙋндаментѣ апслѡвъ и пророкѡвъ в личбѣ мнѡгократной змѣнкꙋ чинитъ (Апакр., 94б–95); Кгдыжъ

церковъ, которую быти вызнаваемо, естъ вселенская ... то жаденъ помѣстный поединковый костелъ ... тое збавенное едности такъ до себе потягати ... не можетъ (Пыт., 24); для того теды *их* посылаю ... жебы се епкпо*м* розежча*т* не допустили, а*ж*бы ... коне*ц* розница*м* учинили, а ины*х* судо*в* пѣнѧ*ж*ны*х* або ѡ ѧкие кри*в*ды поеды*н*ковые не припушали (Бельск., 307); До того естъ католическая, то естъ вселеньская, не поединковая, але по всему свѣту разсѣеная (Гарм., 181). *Параўн.* поодинковый.

**3.** *Некаторы, адзінкавы.* уважъ ѧко велики^s гре*х* е*ст* пыха, на*д* вси и*н*шые грехи и*ж* зара*з* вси добрые учы*н*ки псуеть ... *ин*шые бове*м* выступки цноты то*л*ко поединковые нища*т* (Зб. 255, 95б).

**4.** *Паасобны.* суду поеди*н*кового бъ нѣкому не чини*т*. бо если бы та*к* было, ю*ж* бы суду ждати непотреба (Каз. Кір., 32б); ѧ ту*т* ко*н*трове*р*товати не хочу ѡ суде поеди*н*ковомъ, которимъ кождаѧ дша з тѣломъ сѧ розлучаючаѧ натыхъмѣстъ сужона бывае*т* (Зб. 259, 353б).

**5.** *Асаблівы, адметны.* межы и*н*шыми и то*т*: о поеди*н*ково^s ласце божо^s ку ме*стц*у ѧково*м*у стому ... ужываю*т* (Аб абр., 1).

**6.** *Адзінарны, з адным лязом.* в мешку было полторы копы грошей, но*ж* поедынковый, коштовал гроши чотыры (АВК, XXXVI, 357, 1582).

**7.** *Аднаконны; прызначаны для аднаконнай запрэжкі.* полшорокъ купили французскій поедынковый дали золот. і (ИЮМ, I, 74, 1679); Арапникъ на пара кони, другій поединковый и канчукъ (ИЮМ, II, 94, 1684); За направене ... шести лейцовъ крыжовыхъ и поедынковыхъ пары тры, заплатили Ярмоле рымару золот. четыры (ИЮМ, VII, 145, 1690); Купили на рынку колъ чотыры до колясы поединковой малой (ИЮМ, VIII, 93, 1691); За направу коляски поедынковой дали (ИЮМ, XIII, 51, 1699).

**Поединкомъ, поедынкомъ** *прысл.* **1.** *Па адным, паасобку.* светки ... поединъкомъ под присегами своими знали, иж дей видели есмо его мераючи полотно таволгою (ИЮМ, XXXII, 175, 1578); Котѡрые то приклады ним^s сѧ поединкомъ оуважати боудоу*т*, то перше огоуломъ ... ку оуваженью подаю (Апакр., 130б); Также и на заходнихъ и всходнихъ сторонахъ сила зъ-межи пановъ благочестивыхъ ... естъ, которыхъ всѣхъ поединкомъ выличати часъ теперъ не знесетъ (Пыт., 10); неприѧтелѧ ... ро*с*пороши*в*ши доперо губи*т*, бо сна*д*не^s поеди*н*ко*м* выгуби*т* (Зб. 261, 117); рачьте ваша милость поедынкомъ – первей девку, а потомъ того наймита Филипа пытать (АВК, XVIII, 310, 1630); Ису*с* затвори*л*се ду*х*о*м*

и рекъ, ѡдин з вас предаст мꙗ ... ꙋченики поедынкомъ мовили, изали ꙗ есми господи (Зб. 255, 237б); ꙋказалисꙗ тые стые великие стители перве[s] поединком а потом заѡдно вси три, не през сон але наꙗвѣ преподобному Іѡанну (Зб. 752, 515); по прочытаню тыхъ конфесатъ звышъ менованыхъ жыдовъ ... кождого зособна и поедынкомъ верыфикуючы и конфронтуючы ... выпытывали (АВК, XXIX, 87, 1680). *Параўн.* поодинкомъ.

**2.** *Асобна, без удзелу іншых.* за чимъ я на сесь часъ рады моее въ той мѣрѣ вашей милости моему милостивому пану давати не могу, ани тежъ, поедынкомъ, въ такъ рѣчахъ великихъ самъ одинъ рады давати не буду умѣть (АЗР, IV, 97, 1595); Дшѣ грѣшных анѣ поединкѡм без тѣла сꙋдꙋ, анѣ гред сꙋдом мꙋкъ пекелных не подоимꙋют (Каз. Кір., 26); всѣмъ поединкомъ пастыремъ певнаѧ часть паствы есть назначена, абы ее кождый рѧдилъ и справовал (Апакр., 140); вѣдже не читаемъ абы ему поединкомъ гдѣ ихъ мѣлъ давати, але гдѣ всѣмъ, тамъ и ему (Пыт., 23); Дозорцы рочніи, албо ѡт них[s] оупрошоные, не мают сами собою, ани поединком з них никомꙋ жадной вещи братерской ... позычати (Ст. бр., 22б).

**Поединникъ** *наз. Асоба, якая ўдзельнічае ў паядынку.* Всемогꙋчаѧ Стаѧ и единоиснотнаѧ Троице: дарꙋй нам ... абы окрꙋтный непріател нашъ и поединникъ ... под ногами недꙋжихъ и слабыхъ насъ палъ (Каліст, I, 164).

**Поединовый** *прым. Асобны, вылучаны з якога-н. мноства падобных прадметаў.* ꙗкъ небеса переходꙗт великостю своею вси тѣла поединовы, такъ личба ангеловъ личбу всꙗкую переносит (Пралог, 547б).

**Поединокъ, поедынокъ** *наз. Паядынак (бітва двух праціўнікаў).* если хто примꙋшоны[s] до чиненꙗ поединкꙋ то может (Зб. 261, 240б); ѡберите з себе мужа, а нехаи выйдет на поединок (Біблія, 327); шꙋ[s]ски[s] ... видѣвши зрадꙋ послал лист ꙋщипливы[s] до гетмана, за чим до поединкꙋ межи ними при[s]ти мѣло (Стрыйк., 596); ты ... на поедынокъ вызывалъ его самого пана стольника Полоцкого (АСД, III, 76, 1615); ꙗкъ юнакъ чирствыи заданыи на поедінкꙋ раны мꙋжне зноситъ и ѡдражаетъ (Мак., 132); Ѡто вамъ поедынок[s] и барзо великій естъ предложеный (Варл., 2); Игралище: Игриско, мѣсце где гонитвы бываютъ, и поединки, и комедіи (Бяр., 53); двдъ зброею кролевъскою погардилъ кгды мѣлъ з голиꙗтомъ поединокъ чинити (Зб. 259, 403б); колѣ тꙋрки его вызывали на поединокъ, а онъ, абы цалой слꙋжбы Бжой выслꙋхалъ, вынѣти з[s] Црквы не хотѣлъ, Агглъ за него поединокъ ѡтправилъ, и тꙋрки звытѧжилъ (Зб. вып., 32).

**По единому** *прысл. Па адным, адзін за адным.* приведши их на ѹготованное мѣсто по единому стинали (Зб. 752, 112б).

**По едину** *прысл. Асобна, паасобку.* всимъ калугеромъ, вкупѣ и кождому поедину, подлежащимъ благословенія нашого (АЗР, IV, 27, 1589); пастырское благословеніе всимъ вокупѣ и кождому поедину вшелякого достоенства и заволанья людемъ донесши (Там жа, 126, 1596).

**Поеднанеся** *наз. Дзеянне па дзеясл.* поеднатися *ў* 2 *знач.* Животъ Ласки естъ животъ поеднанѧсѧ чл҃ка з Бг҃омъ, черезъ тайнѹ кр҃щеніѧ починаючійсѧ (Сматр., 18); скѹтокъ власны[s] крещенија ... *ест* ѡ*т*пѹщениемъ греховъ и поеднанемъсја з богомъ (Зб. 259, 525–525б).

**Поеднаный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* поеднати *ў* 1 *знач.* а хотя бъ не переведена, а за объжалованьемъ поеднана, – таковая жъ вина; а естъли бу[деть] станеться, а не жалуючы враду, поеднаються, тая вина – шесть грошей, хто едънаеть (КПД, 547, 1557); Смирителный: згодливый, поеднаный, погоженый, еднаючій (Бяр., 151).

**2.** *Ад* поеднати *ў* 4 *знач.* их милость ... листы врядовые до мене выносячи и близкости через умоцованого доходит хотечи, о што дей все было поеднано (АВК, XXX, 30, 1589).

**3.** *Ад* поеднати *ў* 5 *знач.* офѣра ... таѧ есть заколе*н*е розѹмного баранка, то есть смерть Хв҃а: и а*ж* тогды поеднаны*м* оуже и любы*м* абы ласка дана была (Каліст, І, 168б); з[s] Хр*с*томъ презъ кр҃щеніе поеднани сѹтъ (Варл., 4б); поеднана теды бывае*т* дш҃а наша з небе*с*нымъ ѡнымъ ѡблюбе*н*цемъ хс҃томъ паномъ презъ покѹтѹ (Зб. 259, 458).

**Поеднанье, поиднанье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* поеднати *ў* 1 *знач.* Смиреніе: Поеднанье, згода, оуспокое*н*е. зри Миръ (Бяр., 151).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* поеднати *ў* 2 *знач.* мированіе – помиренье пои*д*на*н*е (Зіз., 42); пото*м* езди*л* до пано*в* сэнаторо*в* просечи ѡ поедна*н*е пн҃а тро*ц*кого але же се было спознило (Еўл., 25); кгды который королъ з[s] вѧзнѧми напротивъ себе выкротными, и одаль ѡ*т* палацѡвъ кролевских[s] посажеными до оугоды и поедна*н*ѧ вcтѹпити хоче*т*, не вѧзневъ до свои*х* палацѡвъ взываеть, але сам[s] до нихъ выходитъ (Каліст, II, 122).

**3.** *Дзеянне па дзеясл.* поеднати *ў* 4 *знач.* княгиня Петровая ... учинила ему досыть водлуг поедная небощыка пана малжонка своего ... с паномъ Яномъ (АВК, XXXVI, 25, 1582).

**4.** *Ад* поеднати *ў* 5 *знач.* есть Хс҃ Гдь поеднан[s]е наше: который злѹчилъ розностоѧчих[s], а з[s] обоихъ одно оучини*л* (Каліст, II, 77); Змоцни его, поеднан[s]е твое в[s] ѡномъ ствержаючи (Варл., 187б).

**Поеднати, поеднать** *дзеясл.* **1.** *Дагаджаючы чым-н., улагодзіць, задобрыць, схіліць на свой бок (каго-н.).* мели есмо поеднати полъчетьверъта десꙗтъма копами грошеˢ (КВС, 563, 1552); одно его у дыбы катъ бил и за шкоды и вси накълады пана Томковы панъ Кучъкунъ поедналъ двадцатьма копами грошей (АВК, XXXVI, 202, 1582); Миколаецъ Жакгунец ... коней двое украл и за тое того пчелника поеднал и тые кони поплатил (АВК, XXXI, 226, 1595); приехавши с того щастꙗ за ꙗкус ѡпеку поеднал пан александэр пна волского ѡсмънасту сот коп грш (Еўл., 38); мнѡго речій справилъ, мнѡго оутерпѣлъ, абы непріателѧ поедналъ (Каліст, I, 150); слезами и вздыханемˢ Бг҃а поѣднати старалˢсѧ (Варл., 301); Каждый таковый, который перекупуетъ пирогами албо ситницами, также маетъ вписаться до реестру и цехъ маетъ поеднать и послушнымъ братіи быть (ИЮМ, X, 298, 1660); самъ панъ райца скарбовый поедналъ Кунцевского за шаблю и шапъку (ИЮМ, XI, 146, 1697).

**2.** *Памірыць, прывесці да згоды.* почали подданые пана Ивановы зъ поддаными церковными просити мене, абыхъ ихъ поедналъ (АВК, XI, 31, 1556); сѹдꙗчы а чынꙗчы справедливост ... не было сварѹ жадног которог бы не поеднал (Зб. 752, 581б); цесар мовитъ, але ꙗ вас згодит а поеднать хочу (Пралог, 577б).

**3.** *Памірыцца, прыйсці да згоды.* тотъ ждановичъ тамъ и тотъ смешко з нимъ ѡ то водлѹгъ того роспису и ѡтложеныꙗ не поеднали (КЛС, 144, 1597).

**4.** *Змовіць, дамовіцца з кім-н. аб чым-н.* Жыдомъ бегуномъ за пудовъ семъ поеднали отъ пуда по осмаковъ осмнадцать (ИЮМ, IV, 285, 1688); поеднали жыда Марка за чоповое и шележное, за сыцене меду, пудовъ сорокъ два и четыры безмены (ИЮМ, VII, 246–247, 1690).

**5.** *// перан. Злучыць, звязаць якімі-н. адносінамі, пачуццямі.* зˢ Бг҃омъ ѡтцемъ поедналъ насъ (Каліст, II, 239); сн҃а моего, который ѡт вѣры нашеи ѡтстѹпил, зˢ ѡшѹканѧ хрстіѧнского выбавилъ, и зˢ добротливыми богами поѣднал (Варл., 265б); пристꙗ хрста гсда ... которыˢ нас з несправедливыхъ ѹчинилъ справедливыи и поеднал з бг҃омъ (Выкл., 137).

**Поеднатися, поеднатисе, поеднаться** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* поеднати *ў* 1 *знач.* потомъ, съ права оны зъшодъ, и межи собою о томъ поедналися (КЗ, 381, 1482); Тежъ, которыи Витбляне межи собою побъються, а за дѣцкимъ поеднаються, ино намъ куница шерстью зъ мирьщины (АЗР, I, 352, 1503); тогды вся вина за головъшчыну до скаръбу его милости маетъ быти взята, хотя бы и сто-

роны поеднали ся (КПД, 130, 1544); я ... за порадою прыятелъ моих, поеднался есми з ними с тою помененою мачохою (АВК, XXXII, 325, 1596); мѣл приꙗтели межи греки прето се поеднали (Бельск., 83б); зоставъ даръ твой перед церковѕю, а шедши поеднайсѧ первѣй зѕ братомъ своим, а тогды пришедши, принеси даръ свой (Каліст, I, 32); не ꙗ приказꙋю але Гдь, ижъ бы жона ѡт мꙋжа не ѡтходила, а если бы ѡдышла жебы трвала без мꙋжа, або сѧ з мꙋжомъ поеднала (Навука, 163); пойди напередъ поеднайсѧ зѕ братомъ твоимъ (Варл., 91б); иди а перве ѕ поеднаѕ се з братомъ которого еси ѡбразил (Зб. 255, 86б); понѧлъ жонꙋ ... котораѧ егѡ ѡпꙋстила, и воротила сѧ до оца своегѡ ... и шолъ за нею мꙋжь ей, хотѧчи сѧ зѕ нею поеднать (Хран., 187б–188).

**2.** *Ад* поеднати *ў 5 знач.* поеднайте сѧ зѕ Бгомъ (Каліст, II, 170б); поедналъсꙗ годне з братами своими въ едном крещеніи стом поражеными патріархами мовлю стыми всходными (Дыяр., 168); поеднавъшисꙗ з богомъ ѡтцемъ своимъ, стараѕтесꙗ абысте далеко ѡт нег не ѡтпадали (Зб. 259, 349б).

**Поеднаться** *гл.* поеднатися

**Поедначъ** *наз. Прымірыцель.* Присмотри жъ сѧ хто посредникомъ естъ, хто сѧ сталъ поедначемъ (Каліст, I, 149б).

**Поедновати** *дзеясл. Дамаўляцца, заключаць дагавор.* Марку жыду шацовничому за цалый рокъ самъ панъ райца поедновалъ, за меду сыцене и пива за варовъ дванадцать также за цалый рокъ таляровъ битыхъ пятнадцать (ИЮМ, V, 109, 1688).

**Поедынковый** *гл.* поединковый

**Поедынкомъ** *гл.* поединкомъ

**Поедынокъ** *гл.* поединокъ

**Поедь** *наз. Патрава (знішчэнне пасеваў або травы жывёлай).* видели есмо шкоду – поедь коньскую, овса есмо осудили, окоповали копъ две (АВК, XVIII, 115, 1593).

**Поежджати** *гл.* поезджати

**Поежджый** *гл.* поезджий

**Поеждчанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* поезджати. Абы поежъдчанье замковъ, дворовъ и волостей его королевской милости не было справовано черезъ чужоземъцовъ (КПД, 94, 1547).

**Поеждчий** *гл.* поезджий

**Поеждчый** *гл.* поезджий

**Поеже** *прысл. Менавіта.* Хотѧ речено петрови, тобѣ дамъ ключи. але всѣмъ апслѡм даны; когда; певне егда мовитъ, которымъ ѡтпоустите грѣхи, ѡтпꙋщены боудꙋтъ. абовѣмъ егда мовитъ,

тобѣ дамъ, назначаетъ той часъ, поеже ѡ*т* мертвыхъ встаніи (Апакр., 98б).

**Поежчий** *гл.* поезджий

**Поезджати, поежджати** *дзеясл. Рабіць службовую паездку з мэтай збору падаткаў.* Платы ... нигдѣ индѣ не маютъ быти браны, только ... въ мѣстѣхъ або на селѣ, на одномъ мѣстцу, въ господѣ, не поѣзджаючи и не посылаючи на села а ни въ домы войтовъ (АЗР, III, 79, 1557); есмъ особливый офицыалъ, который поѣжджаетъ и визытуетъ по всей діоцезыи епископства оного (АСД, VI, 114, 1608).

**Поезджий, поежджый, поеждчий, поеждчый, поежчий, поездчий** *прым. у знач. наз. Зборшчык падаткаў.* нижли кгды были поеждъчые и мерники первъшые, тые его на волоки пописали (АВК, XXIV, 292, 1567). ◊ Листъ поезджий (поежджый, поеждчий, поеждчый, поежчий, поездчий) *гл.* листъ.

**Поездникъ, поезникъ** *наз. Зборшчык падаткаў.* зиме у другое езьдять поездники и беруть двесте белокъ, двесте хлебовъ, двесте окараковъ мяса (КЗ, 465, 1488); на владычина поезника варать пивъ зиме 12 а лете 12 (Там жа, 468);

**Поездовый** *прым. ад* поездъ *у* 1 *знач.* Еще заплатили тому жъ Артему за направоване колясы поездовой, дали ему зол. два и полъ (ИЮМ, VIII, 69, 1691). ◊ Листъ поездовый *гл.* листъ.

**Поездчий** *гл.* поезджий

**Поездъ** *наз.* **1.** *Транспартныя сродкі (брычкі, вазы, калясніцы і пад.).* паси козлы своѧ подлѣ становъ пастуших[s], поезду моему на возехъ фараоновых[s] прировнах[s] тебе приѧтел[s]ко моѧ (Скар. ПП, 3б); Глава ї̃ ... о дарехъ иже давали ему иныи цари, и о поезду комонства его (Скар. ТЦ, 148б); пошол великий кн҃зь Димитриі, за ним всѣ кн҃зи рускиі з великимь воискомь, аж стукъ стучить, громь гремить по ранней зорѣ от ихь поѣзду (Мам., 176); за проводомъ ѡ*т*ц҃евъ виле*н*скихъ в монасты*р* зо всѣмъ поѣздо*м* в[s]ѣхалъ (Дыяр., 159б). *Параўн.* пояздъ *у* 1 *знач.*

**2.** *Паездка, язда.* О поѣзде кн҃зя Димитрия межи трупами, о личбѣ забитыхь и о похованю ихь (Мам., 188). *Параўн.* пояздъ *у* 2 *знач.*

**3.** *Службовая паездка судовай асобы з мэтай праверкі выканання рашэнняў суда.* тые комисары нашы впередо*д* ѡ поезде свое*м* пото*м*ко*м* небощыка ... ѡзна[s]мившы зъехали (ККСС, 39, 1615); они ... слушне присеги слухали и поѣздъ чинили (АСД, VIII, 228, 1617); чому се дей ты съ повестью и словами своими не згожа-

ешь, бо дей будучы въ Пасиничахъ Твикови инакъшую справу о поезде своемъ давалъ (АВК, XVIII, 250, 1619); ѡ то позвы покладано всказ пал и поездъ ѡтправованы был (КАР, 48б, 1647); Евлашевски ... часꙋ поездꙋ под титꙋлом велебное капитылы виленское чынит боронил (Там жа, 68б, 1648). ◊ Листъ поезду гл. листъ.

**Поездьниство** *наз. Від павіннасці (забеспячэнне праезду дзяржаўных службовых асоб).* вживаючи того дворища, ненадобѣ ни воина, ни яловице платити, а ни поѣздьниства, ни грамоты носити (АЮЗР, II, 102, 1340).

**Поезникъ** *гл.* поездникъ

**Поемщикъ** *наз. Наёмны селянін.* Также дали есьмо и со всимъ и съ тымъ, и съ поемщиками, и съ осѣдками, и съ роспусты, якожъ то десетиннику Богдану и дѣтемъ его – вѣчно, никимъ же непорушно (АВК, III, 4, 1465).

**Поемый** *дзеепрым. ад* пети *ў* 2 *знач.* велико братіа к намъ грѣшнымъ спсово сохождѣние ... ѡт англъ в⸗ нбсѣхъ воспѣваем. ѡт серафимовъ хвалимыи. ѡт детеи жидовъских поемыи (Чэцця, 314б).

**Поеный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* поити *ў* 1 *знач.* скарал теды гсдъ людъ, ижъ ꙋчинил телца. длꙗ чого поены водою телца (Біблія, 151); Штож бꙋдеть в⸗ онъ час, кгды на животные источники вѡдъ наставлены, и гойне а обфите ѡным бготрезвенным вином поени, и честовани бꙋдꙋть (Карп., 22б).

**2.** *// перан. Які насычаецца вадой, увільгатняецца.* Если бы землѧ частыми дджами поена не была, нѣколи бы не ростила травъ (Каліст, I, 78б).

**Поенье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* поити *ў* 1 *знач.* велъ дей тотъ подданый ... коня своего и моего для поенья до воды (АВК, XXXVI, 235, 1582); Фесковой дворницы за догляданье и поенье коня ... дали золотый одинъ (ИЮМ, I, 34, 1679).

**2.** *Пітво, напой.* поеньеж оу сꙋдѣх златых а сосꙋды ѡт сосꙋдовъ инаковы а вина црского много как рꙋка црскаѧ (Зб. 262, 127).

**Поесница** *наз. Паясніца (частка спіны крыху ніжэй пояса).* виделъ есми ... другую рану на поесницы (АВК, XVIII, 109, 1592).

**Поесокъ** *гл.* поясокъ

**Поести** *дзеясл.* **1.** *З'есці, паесці (усё або многае).* Плоды земли твоеіа и всѧ труды твоѧ поедѧть людие (Скар. ДЗ, 53); одную жъ корову и четверо коз в селе своемъ Кемей сами побившы и порезавшы з Семеномъ Жылою поели (АВК, XXXVI, 233, 1582); коли внидешъ рано, если не на⸗деш же все вилъ поелъ смертью по-

мремо (Біблія, 558); на ѡстаток таки$^s$ голод мѣли же поевши вси кони и гно$^s$ их ели (Бельск., 232б); конь твой копу жита сопсовалъ и розторгалъ, а инъшое и поелъ сноповъ десеть (АВК, XVIII, 232, 1612); Крона впередъ всѣх$^s$ бога впроважают$^s$ ... который з$^s$ Реи мнѡгіе мѣл сыны: которыхъ тежъ сам ѡшалѣвши поѣлъ (Варл., 242–242б); по ȣлицах забитые и ȣмерлые лежали ... которых птахи поести не могли (Зб. 752, 97); пȣщȣ на васъ звѣри полевыи, которыи б поели васъ и добытокъ вашъ (Хран., 127). // *перан. Паесці, патраціць на ежу (пра грошы, маёмасць і пад.).* кгды сынъ твой сей, который маетность свою з$^s$ вшетечницами поелъ, пришолъ, закололесь длѧ него телца оного кормного (Каліст, I, 9б); *раз'есці (пра ржу, едкія рэчывы і пад.).* золото ваше и серебро поржавѣло, а ржа ихъ на свѣдоцство против$^s$ васъ бȣдетъ, и поестъ тѣла вашѣ ꙗкъ огонь (Каліст, I, 36); *паглынуць, увабраць у сябе.* погинете межы поганы, и поестъ васъ землѧ непріѧтельскаѧ (Хран., 127–127б). *Параўн.* поясти.

**2.** *Грызучы, раз'ядаючы, сапсаваць што-н.* Ну бо нынѣ богатіи плачетесѧ рыдающеи о страстѣх$^s$ ваших грѧдущих$^s$, богатество ваше изгни, и ризы ваша молие поедоша (Будны, 63); тваръ вся синя, побита и сторона твары правая знать што мышы, такъ тежъ и ковнеръ у кошули поели (АВК, XVIII, 221, 1608).

**3.** // *перан. Знішчыць, згубіць.* выліи гнѣвъ твой на ꙗзыки которые не знают тебе. и на цр҃ство которые имени твоег не призвали, бо поели ꙗкова и местечко ег спустошили (Пс. XVI, 82б); припали турки ѡкрикъ велики$^s$ ȣчинивши ꙗкобы наших мѣли поести (Хр. польск., 16б).

**Поесъ** *гл.* поясъ

**Поета, поэта** *наз. Тое, што і* поетъ. Марульюса калѧбрыичыка поэты виршы ему к воли написаные до ѡгнѧ вкинути казалъ (Атыла, 225); Ѡвидиȣс назо поета знамениты$^s$, тог часȣ был, заслан ѡт цесара за море понтское (Бельск., 190); то$^s$ гомерȣс настародавнѣ$^s$ши$^s$ поета, которы$^s$ квитнул и жил по во$^s$не троꙗнско$^s$ рокȣ р҃ѯ҃ (Стрыйк., 423); гомерȣсъ поета кгрецки$^s$ былъ слепы$^s$ (Зб. 259, 63б).

**Поетицкий, поэтыцкий** *прым. Які мае адносіны да паэзіі.* водле волности поэтыцкои назбыт его выславѧючы написал ꙗкъ бы Атылѧ ѡт богов пошол, поведаючы то быти великую невстыдливость, кгды люди смертэльные змышлѧючы сѧ мѣти початок от богов несмертэльныхъ (Атыла, 226); поетицкое ѡписане тое жъ значило. Которȣю горȣ неꙗкȣю высокȣю ... пристȣпъ до нее, трȣдъ (Зб. 259, 548–548б).

**Поетъ** *наз. Паэт.* ꙋ грекоⷡ были назацнѣшие поетове мꙋзики звꙗздари, лѣкари ꙗко ѡ тоⷨ иⷯ писмо свѣдчиⷮ (Бельск., 144); Адринополе заⷭ наⷣ стрименеⷨ рекою не таⷦ велико ꙗⷦ в поетоⷡ славно (Стрыйк., 422б); ꙗкъ много оныи давныи поганскіи Поетове и Римодѣеписове ... працы, потꙋ, чꙋтѕѧ и неспанѕѧ подыймꙋючи: Лѣта, дни и часы травили (Пауст., 2); иншіи ритори*ц*кой поваги оучили иншіи засе грамматіками и поетами зоставши, ведлꙋгъ зда*н*ѧ Історіи писали (Мак., 352); Поетове и философове такѕ Халдейскіе, ꙗкъ и Египетскіе, кгды вѣршами своими и пісмами бѡгѡⷡ своиⷯ почтиⷮ хотѣли, соромотꙋ ихъ барзѣй ѡⷮкрыли (Варл., 247б); ѡ лилии поведали поетове ижъ сѧ з молока ꙋродила (Зб. 259, 596б); рѣка ... выходиⷮ з реки стыѯꙋ речонеѕ, ѡⷮ поетовъ названа рѣка пеке*л*наꙗ (Выкл., 93б). *Параўн.* поета.

**Поеханье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* поехати *ў* 3 *знач.* по поеханью ихъ пили въ мене пиво (АВК, XVII, 239, 1540).

**Поехати** *дзеясл.* **1.** *Пачаць ехаць, перамяшчацца пры дапамозе якога-н. транспарту.* а коли митрополитъ поѣдеть мимо монастыра светого Онофрѣя, ино митрополиту того архимандрита Онофрѣйского не судить (АЗР, I, 58, 1443); Сего длѧ поедь ты господине мои предъ рабомъ своимъ, азъ же полегъкꙋ наследовати тебе бꙋду (Скар. КБ, 62); Трыщан поехал дорогою по поврозех и зачепилъ конемъ поврозов (Трыст., 94); И всѣдъ на конь и поехал, а с ним десет юнаковъ (Бава, 131); ѡни несучи збожъе на ѡслаⷯ своиⷯ поехали (Біблія, 94); и тепеⷬ ꙗвныи знаки з перекопами и валами, и кождыѕ коли таⷨ поедеⷮ снадне ѡбачиⷮ може (Стрыйк., 430б).

**2.** *Накіравацца, адправіцца куды-н., да каго-н.* слꙋжебнікъ своимъ посохѡⷨ имаеть поехаⷮ к селꙋ к томꙋ панꙋ (Вісл., 14); кнѧⷥ великыи витоⷡтъ поехаⷧ къ кнѧзю великомꙋ ѧгаилꙋ въ его воиско (Віл., 443); палимидеⷭ ... ку споможенью своиⷯ на конь свои всеⷧ а поехаⷧ на валкꙋ (Троя, 25б); поехали есмо были до микꙋлина соль провадити (КВЗС, 34, 1537); сынъ мой ... для вицвиченя наукъ вызволеных и рицарских в далекие стороны поехал (АВК, XXXII, 159, 1596); Тепеⷬ же Литва ѡⷮ козаковъ ѡⷮстꙋпивши до Могилева на болшиѕ лупъ поехали (Барк., 154); сам хотечи ... тот мой тестамент паперовы на паркгаменны лист описати поехалем сам до вилни (СДГВ, 66, 1619); кроⷧ паⷩ тогоⷤ тыднꙗ в сꙋботꙋ на ноⷱ поѣхалъ на ловы (Дыяр., 176). ◊ П о е х а т и  п о  р ы ц э р с т в у  (р ы ц е р с т в е) — *накіравацца на вайсковую службу (пра шляхту).* естли бы сыⷩ поехаⷧ по рыцэрству ... тогды мы гсдръ маеⷨ ꙋстановить ѡпекуна на тые имеⷩѧ (Ст. 1529–Ф, 35);

